наша
# свабода

№112(199) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

15 КАСТРЫЧНІКА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Цукровая вайна паміж Беларусьсю і Ўкраінай


Фота IREX/ProMedia

Украіна абмежавала ўвоз беларускага цукру на сваю тэрыторыю. Цукар вывелі з рэжыму свабоднага гандлю між дзьвюма краінамі.

Як паведамілі ў міністэрстве эканомікі Украіны, рашэньне пра выключэньне цукру з рэжыму свабоднага гандлю паміж дзьвюма краінамі афіцыйны Кіеў прыняў 10 кастрычніка.

Паводле тлумачэньняў украінскіх чыноўнікаў, гэткае рашэньне справакавалі дзеяньні беларускага боку. Як высьветлілася, ініцыявалі пастанову кабінэту міністраў Украіны украінскія вытворцы цукру. Чаму? Вось што адказаў на гэтае пытаньне па тэлефоне з Кіева кіраўнік сэктару эканомікі аб'яднаньня «Украінскі цукар» Іван Дзембак: «Чаму? Таму што ваш цукар-сырэц колькасьцю прыблізна 150 тысяч тон рэалізоўваўся на ўкраінскім рынку».

Заканчэньне на стар.3

## МАЗ можа стаць

Мінскі аўтамабільны завод можа спыніць выпуск прадукцыі. Пра гэта паведаміла служба грамадскіх сувязяў МАЗа. Яраслаўскі завод «Аўтадызель», асноўны пастаўшчык рухавікоў для МАЗа, паведаміў пра намер на 12-30% у залежнасці ад мадэлі павялічыць кошты на сваю прадукцыю.

Паводле заяваў кіраўніцтва МАЗа, рынкавыя ўмовы дазваляюць вытрымаць падвышэньне цэнаў на рухавікі толькі на 1-2%. Пры больш істотным падвышэньні цэнаў машыны МАЗа стануць неканкурэнтаздольныя на расійскім рынку.

Як паведамлялася ў беларускім друку, яраслаўскі «Аўтадызель» нядаўна быў набыты ва ўласнасьць буйной бізнэс-групоўкай, якую ўзначальвае Алег Дзерыпаска. У апошнія месяцы ён вёў перамовы з беларускімі ўладамі пра набыццё ва ўласнасьць МАЗа. Тое, што Дзерыпаска валодае яраслаўскім заводам – адзіным пастаўшчыком рухавікоў для МАЗа, – было яго ным козырам на перамовах. На думку экспэртаў, павелічэньне коштаў на рухавікі ёсць спробай ціску на Беларусь, каб атрымаць кантроль над МАЗам на ўмовах расійскага капіталу.

**Іван ПЯТРОВІЧ**

## Экспарт тавараў саступае экспарту паслугаў

Паводле папярэдніх звестак Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, за 8 месяцаў бягучага года Беларусь экспартавала паслугаў на 758,2 мільёна даляраў, што на 24,1 працэнта больш, чым за адпаведны леташні перыяд. Экспарт паслугаў у краіны СНД узрос на 42,2 працэнта і ў краіны па-за СНД — на 14 працэнтаў. Найбольшая ўдзельная вага ў агульным аб'ёме экспарту паслугаў (каля 60 працэнтаў) займаюць транспартныя паслугі, якія за 8 месяцаў склалі 451,5 мільёна даляраў ЗША. Экспарт дзелавых паслугаў узрос на 49,3 працэнта і склаў 200,2 мільёна даляраў ЗША. Узрасьлі таксама аб'ёмы будаўнічых паслугаў і паслугаў сувязі — да 36,9 мільёна і 38,2 мільёна даляраў адпаведна.

Імпарт паслугаў за студзень-жнівень 2001 года склаў 360,8 мільёна даляраў і ў параўнаньні з аналагічным леташнім перыядам павялічыўся таксама на 24 працэнты, у тым ліку з краінаў СНД на 21,4 працэнта, а з краінаў па-за СНД — на 25,8 працэнта. На 34,8 працэнта ўзрос імпарт транспартных паслугаў, у асноўным за кошт перавозкі грузаў марскім транспартам. Станоўчае сальда ў гандлі паслугамі склала 397,4 мільёна даляраў ЗША і кампэнсавала адмоўнае сальда ў знешнім гандлі таварамі, якое за 8 месяцаў склала «мінус» 21,9 мільёна даляраў ЗША.

Паводле звестак упраўленьня Беларускай чыгункі, за 8 месяцаў 2001 года БЧ перавезла 16,2 мільёна тон экспартных грузаў. Аб'ём экспартных грузаперавозак у Расію, у прыватнасьці, узрос на 143, у Казахстан — на 146 працэнтаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

## Незаконныя рублі і долары

З пачатку гэтага года на тэрыторыі Магілёўшчыны выяўлена больш за 100 фактаў незаконнага абароту наяўнай валюты. Такія звесткі прывяло ўпраўленьне Дзяржкамітэта фінансавых расьследаваньняў па Магілёўскай вобласьці.

У Хоцімску ў выніку спэцыяльна праведзенай апэрацыі быў затрыманы мясцовы жыхар у момант продажу жыхарцы раёна партыі расійскіх рублёў. Пры аглядзе ў валютчыка знойдзены беларускія і расійскія рублі, долары на агульную суму звыш за 10 мільёнаў беларускіх рублёў. Рашэньнем Хоцімскага раённага суда ўся валюта канфіскавана, прадавец і пакупнік валюты прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці.

Усяго сёлета па падобных фактах рашэньнямі судоў вобласьці канфіскавана каля 20 тысяч даляраў, 3 мільёны беларускіх і 150 тысяч расійскіх рублёў.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Ружовыя акуляры

### *Апрануў урад і ўхваліў аптымістычныя прагнозы на 2002 год*

*У пятніцу Савет міністраў Беларусі сабраўся, каб ухваліць праекты прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, а таксама бюджэту на 2002 год і асноўных накірункаў грашова-крэдытнай палітыкі.*

Прагноз на 2002 год выглядае вельмі аптымістычна – асабліва на тле апошніх падзеяў, калі бюджэт недалічваецца амаль 200 мільёнаў даляраў, запазычанасці па заробках падвысіліся ў 15 разоў, а галодныя рабочыя гатовыя ісці на ўскраінія захады, каб толькі атрымаць грошы за ўжо выкананую працу.

Урад прадказвае, што ў наступным годзе мы будзем жыць лепей. Валавы ўнутраны прадукт (ВУП) узрасце ў параўнанні з сёлетнім на 4-5%, прычым беларуская прамысловасць выпусціць на 5-6% болей тавараў, а сельская гаспадарка падвысіць вытворчасць на 3-4%. Даволі істотна, паводле чаканняў Савета міністраў, павялічацца інвестыцыі ў асноўны капітал – яны складуць 106-107% ад сёлетняга ўзроўню.

Заканчэнне на стар.3

## Памежных пунктаў паменее

Літва збіраецца зачыніць 23 памежныя пункты на мяжы з Беларуссю і пакінуць толькі некалькі мадэрнізаваных і добра забяспечаных міжнародных памежных пераходаў. Пра гэта паведаміў кіраўнік Дзяржаўнай службы памежнай аховы Літвы Альгімантас Сангайла, які браў удзел у нарадзе, прысвечанай прыстасаванню сістэмы памежнай аховы да стандартаў Еўрапейскага Саюза, якая адбылася ва ўрадзе. Гэтыя стандарты патрабуюць умацавання знешняй мяжы Еўрасаюза, якою з часам стане ўсходняя мяжа Літвы.

Па словах А.Сангайлы, акрамя скасавання 23 пунктаў спрошчанага пераходу мяжы (а сёння на 650-кіламетровай мяжы Літвы і Беларусі працуюць 29 памежных пунктаў), плануецца ўмацаваць міжнародныя пункты памежнага кантролю ў Лаворышках, Медніках, Райгардзе і Салечніках, а таксама чыгуначныя памежныя пункты ў Гадуцішках і Кяне.

**Сяргей ШУПА**

## Язык до Киева доведет

Почти неделю спустя после своего официального представления в нижней палате белорусского парламента, новый премьер-министр Геннадий Новицкий отправился с рабочим визитом в Украину. В силу своего особого положения, когда зарубежные визиты глав государства и правительства Беларуси за последние пять лет можно по пальцам пересчитать, нынешний приезд Новицкого в Киев может заслуживать определенного внимания. И хотя, по официальной версии, договоренность о рабочем визите была достигнута еще при предшественнике Новицкого, все же многие обратили внимание на то, что, вопреки традиции, первый выезд за пределы Беларуси совершается не в Москву. Туда премьер думает попасть, по некоторым данным, только в следующем месяце.

Помнится, когда экс-премьер Владимир Ермошин собирался Украину посетить, то позволил себе некоторые высказывания в адрес славянских соседей, о чем затем сожалел. Публично рассуждая как-то о транзитных и таможенных проблемах, неожиданно для многих, Ермошин вдруг разразился гневом о «хохлах, обдирающих на границе». Сей пассаж тогдашнего премьера Беларуси, естественно, не остался без внимания. В лексика государственного деятеля такие выражения недопустимы. Так уж получилось, что с тех пор ни президент, ни премьер Беларуси на украинскую землю так и не сумели ступить. Конечно, причины тому были другие. Но осадок, видимо, остался.

И кто бы мог предположить, что преемник Ермошина в кресле премьера сможет продолжить публичные ляпы на деликатные темы. В одном телеинтервью Новицкий признался, что, работая в предыдущем правительстве вице-премьером, он курировал с Ермошиным на одном языке. При этом отмечалось, что этому способствовало и то, что оба были выходцами из строительной отрасли. Вместе с тем, на проводах Ермошина в Совмине Новицкий посчитал уместным сказать присутствовавшим, что, мол, ни для кого не секрет (?!), что Ермошин, русский по национальности, сумел проникнуться белорусскостью и работал на благо Беларуси.

Одни чиновники пожелали списать сей ляп на волнение Новицкого, неожиданно оказавшегося в кресле премьера. А другие, после спланированного экспромта, когда премьер превращал заседание правительства и вспомнил о высказываниях про «русского Ермошина», стали в кулуарах судачить, что нового премьера утвердили в парламенте в День психического здоровья. Правда, в тот день он не один был на виду.

Заканчэнне на стар.3

**Шчыра віншуем калегаў і партнёраў з Беларускага прыватнага агенцтва навінаў (БелаПАН) з нагоды дзесяцігоддзя з дня заснавання. Жадаем поспехаў, невычэрпнага імпэту і ідэяў, свабоды творчасці, падзейнай цікавасці і разнастайнасці беларускага жыцця і інфармацыйнага доўгажыхарства!**

**Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ**

## Новы начальнік Інстытута нацбяспекі

Указам прэзідэнта ад 11 кастрычніка 2001 года начальнікам Інстытута нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, дзе рыхтуюцца кадры для беларускіх спецслужбаў, прызначаны генерал-маёр Мікалай Рабчонак. Дагэтуль ён узначальваў упраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Віцебскай вобласці.

## Страты ад аднаго ўказа

Як падае Радыё «Рацыя», віцебскае аддзяленне Беларускай чыгункі падлічыла страты, нанесеныя ўказам А.Лукашэнкі, паводле якога студэнты ВНУ атрымалі ў верасні права бясплатнага праезду на прыгарадных і пасажырскіх цягніках. Страты склалі болей 81 мільёна рублёў.

## Адходы на беларускай зямлі

На VI Беларускім энергетычным і экалагічным кангрэсе намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Аляксандр Апацкі паведаміў, што зараз на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца больш за 700 мільёнаў тонаў розных адходаў. Яны палягаюць на 3 тысячах гектараў. Штогод аб'ёмы адходаў павялічваюцца прыкладна на 25 мільёнаў тонаў.

## Мадэрнізацыя дзеля эканоміі

Бліжэйшым часам пачнецца мадэрнізацыя Лукомльскай ГРЭС і Мінскай ТЭЦ-3. Каштаваць гэта будзе 300 мільёнаў даляраў, але праз 5-10 гадоў гэта акупіцца. Тут будуць укаранёны парагазавыя тэхналогіі, якія дазволяць эканоміць каля 300 тысяч тонаў паліва штогод.

## Турнір маладых інтэлектуалаў

З 26 на 28 кастрычніка ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі пройдзе VII Міжнародны турнір па інтэлектуальных гульнях. Удзел у турніры возьмуць каля 60 студэнцкіх і 30 дзіцячых камандаў.

**НАДВОР'Е**

Віцебск +8 +10
Мінск +8 +10
Магілёў +8 +10
Гродна +11 +13
Брэст +13 +15
Гомель +9 +11

Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



**1505**

## ТБМаўцы едуць у Косава

На выбары дэпутатаў у органы мясцовай улады аўтаномнага краю Косава (Югаславія) выпучаныя міжнародныя назіральнікі ад грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны».

Як паведаміў старшыня ТБМ Алег Трусаў, старшыня Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску Ханс-Георг Вік высока ацаніў удзел прадстаўнікоў грамадскага аб'яднання ў назіранні за ходам прэзідэнцкіх выбараў у краіне. «Вось чаму КНГ АБСЕ прапанавала нам накіраваць сваіх актывістаў у Косава для ўдзелу ў міжнародным назіранні за ходам выбараў», — сказаў Трусаў. Паводле яго словаў, разам з прадстаўнікамі іншых грамадскіх аб'яднанняў Беларусі назіральнікі ад ТБМ будуць знаходзіцца ў аўтаномным краі Косава з 5 па 18 лістапада.

**Марат ГАРАВЫ**

## Бязлётная зона вакол «Ігналінкі»

Літва будзе прасіць Беларусь канкрэтна вызначыць межы бязлётнай зоны над тэрыторыяй, якая непасрэдна прылягае да Ігналінскай АЭС. Пра гэта заявіў міністр аховы краю Літвы Лінас Лінкявічус, які 11 кастрычніка наведаў электрастанцыю.

Над Ігналінскай АЭС ужо існуе бязлётная зона: любым самалётам забаронена пралятаць бліжэй чым за 5 кіламетраў да станцыі і ніжэй чым 6 кіламетраў над ёю. Аднак кіраўніцтва АЭС зазначыла, што недалёка ад станцыі, на тэрыторыі Беларусі, пралятаюць грамадзянскія самалёты, таму варта было б ужыць дадатковыя захады бяспекі для аховы паветранай прасторы над станцыяй.

Ігналінская АЭС размешчаная за 3 кіламетры ад беларускай і за 20 кіламетраў — ад латвійскай мяжы.

**Сяргей ШУПА**

АКЦЫІ

## Заява на жалобнае шэсце

Прадстаўнікі незарэгістраванага аб'яднання Малады фронт падалі ў Мінгарвыканкам заяву на правядзенне жалобнага шэсця і мітынгу, прымеркаваных да 60-ых угодкаў пачатку распраў нямецкіх акупантаў над мінскімі падпольшчыкамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

26 кастрычніка 1941 года ў Мінску былі пакараныя смерцю на шыбеніцы трое ўдзельнікаў антыфашыстоўскага падполля — Кірыла Трус, Валодзя Шчарбацэвіч і Марыя Брускіна. Смяротнае пакаранне адбылося ля прахадной дрожджавага завода (вул. Кастрычніцкая), а шлях асуджаных пралягаў па горадзе ад турмы. Маршрут жалобнага шэсця павінны пралягаць ад СІЗА №1 па ходніку вуліцы Валадарскага да вуліцы Кірава, адтуль праз парк паміж стадыёнам «Дынама» і вуліцай Свярдлова, затым па ходніку ўздоўж вуліц Ульянаўскай і па Кастрычніцкай да пляцоўкі ля прахадной завода.

Шэсце і мітынг заяўнікі мяркуюць правесці 26 кастрычніка з 16.30 да 17.30 пад дэвізамі «Мы павінны памятаць пра гэта» і «Не — фашызму на Беларусі».

**Іван ПЯТРОВІЧ**

## «Дажынкі» для дачнікаў

16-17 кастрычніка ў Рэспубліканскім палацы культуры ветэранаў адбудзецца выстава «Дачныя дажынкі-2001». Пройдуць лекцыі пад назвай «Вынікі дачнага сезона. Абмен вопытам».

Летась на аналагічнай выставе дэманстраваўся гарбуз вагой 50 кілаграмаў. Так што калі вы нешта вырасцілі буйное, цягніце на «Дачныя дажынкі» і выхваляйцеся перад астатнімі дачнікамі.

**Алесь КАЗЛЮКЕВІЧ**

ФІНАНСЫ

## Расійскія банкі хочуць у Беларусь

Адразу некалькі расійскіх банкаў збіраюцца ўзмацніць сваю прысутнасць у Беларусі і адкрыць уласныя банкаўскія структуры.

Як паведаміў старшыня праўлення Нацыянальнага банка краіны Пётр Пракаповіч, намер стварыць у Беларусі ўласныя банкі са 100-працэнтным расійскім капіталам ёсць прыкладна ў 3-4 буйных банкаў Расіі. Пры гэтым галоўны банкір падкрэсліў, што жаданне выкупляць дзеючыя беларускія банкі шляхам набыцця іх кантрольнага пакета акцыяў таксама вітаецца, але актыўнасці ў гэтым сэнсе пакуль няма. «Мы нікому не забараняем купляць кантрольны пакет акцыяў у любым малым банку ці вялікім банку, але ніхто не купляе», — сказаў Пракаповіч. На ягоную думку, гэта адбываецца таму, што расійскія банкі не хочуць браць на сябе вырашэнне чужых праблемаў.

На 1 верасня 2001 года банкаўская сістэма Рэспублікі Беларусь складалася з 25 функцыянуючых банкаў. Пры гэтым доля замежных інвестыцыяў у агульным аб'ёме статутных фондаў банкаў, зарэгістраваных на тэрыторыі Беларусі, складае каля 6%, у тым ліку сродкі расійскіх інвестараў — 3,1%.

**БелаПАН**

МЯЖА

## Літва скасуе візавыя льготы

Плануючы далучыцца да Еўрапейскага Саюза і, адпаведна, да Шэнгенскага пагаднення, літоўскія ўлады маюць намер з 1 студзеня 2003 года скасаваць візавыя льготы для кіроўцаў грузавікоў з Беларусі, для беларускіх грамадзянаў, якія жывуць у прыгранічнай зоне, і для пенсіянераў — грамадзянаў старэйшых за 60 гадоў, паведаміла інфармацыйнае агенцтва «Расбалт». Зараз гэтыя катэгорыі беларускіх грамадзянаў могуць наведваць Літву без візаў.

«Міністэрства замежных справаў Беларусі не атрымлівала афіцыйнага паведамлення наконт гэтага, — заявіў БелаПАН прэс-сакратар МЗС Павел Латушка. — Каментаваць што-небудзь лічым дачасным». У той жа час ён паведаміў, што МЗС Беларусі плануе абмеркаваць пытанне аб візавых льготах на бліжэйшых кансультацыях консульскіх упраўленняў знешнепалітычных ведамстваў дзвюх краінаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

ЛЮСТРАФАКТ



«А в октябре прощай любовь». Потому что холодно, а молодежь не имеет квартир

## Мала яек і бульбы

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у студзені-верасні 2001 года аб'ём валавога ўнутранага прадукта ўзрос на 3% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Такі ж паказчык быў зафіксаваны і па выніках васьмі месяцаў бягучага года.

Прыкметна знізіўся аб'ём сельскагаспадарчай вытворчасці. У студзені-верасні ён зменшыўся на 1,5%, тады як у студзені-жніўні быў адзначаны рост на 5,8%. Паводле звестак Мінстата, на 8 кастрычніка бульбы выраблена 64% ад леташняга ўзроўню, агароднiны — 62.

За 9 месяцаў бягучага года вытворчасць малака ўзрасла на 12%, рэалізацыя жывёлы і птушкі (у жывой вазе) — на 8. Вытворчасць яек скарацілася на 9%. Рост прамысловай вытворчасці склаў 4,6%. Вытворчасць спажывецкіх тавараў павялічылася на 5,1%.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

ЗДАРОЎЕ

## Яшчэ адна смерць ад СНІДу

У Магілёўскай вобласці зафіксаваны восьмы выпадак смерці ад СНІДу. Ахвярай хваробы стаў 32-гадовы мужчына.

Паводле звестак медыкаў, за апошнія дзесяць гадоў на тэрыторыі вобласці было выяўлена 170 жыхароў, заражаных ВІЧ-інфекцыяй, 42 выпадкі з агульнай колькасці прыпадаюць на бягучы год. Восем заражаных на СНІД жыхароў вобласці памерлі.

Спецыялістаў абласнога цэнтра прафілактыкі СНІД асабліва хвалююць перамены ў спосабе заражэння гэтай хваробай. Калі раней носьбітамі ВІЧ-інфекцыі ў асноўным станавіліся наркаманы, то апошнія заражэнні на СНІД на Магілёўшчыне адбываліся палавым шляхам.

**Канстанцін УВАРАЎ**

МЕДЫЦЫНА

## Лекавае насычэнне

Бліжэйшым часам на Беларусі будзе запушчаны ў дзеянне новы завод па вырабніцтве незамяняльных высокаачышчаных амінакіслотаў. Яны маюць шырокую вобласць ужывання, у тым ліку ў крытычным стане падтрымліваюць сістэму жыццязабеспячэння чалавека. Дагэтуль вытворчасць па іх вырабніцтве мелася толькі ў Японіі і ЗША.

Па словах Леаніда Шарко, па праграме насычэння ўнутранага рынку медпрэпаратаў запланавана, што патрэбы рынку ў леках, вытворчасць якіх маецца ў нас, праз 3-4 гады будуць забяспечвацца напоўну сваёй вытворчасцю. Напрыклад, на год для беларусаў неабходна 11 мільёнаў таблетак ампіцыліну, але магутнасцяў галіны для іх вытворчасці не хапае і таму выпускаецца толькі 8 мільёнаў таблетак, а астатнія 3 мільёны імпартуюцца. Аднак, як запэўніў намеснік гендырэктара канцэрна «Белбіяфарм», выкананне гэтай праграмы не азначае, што з аптэкаў знікнуць імпартныя лекі.

Разам з тым, на агульным фоне недахопу магутнасцяў і замяшчэння беларускіх лекаў імпартнымі 53% лекавай прадукцыі канцэрна ідзе за мяжу, пераважна ў Расію. А расійская і украінская прадукцыя тым часам пастаўляецца да нас. Па словах Леаніда Шарко, з-за пастаяннага падвышэння кошту энерганосьбітаў наша прадукцыя ў параўнанні з расійскай становіцца ўсё больш неканкурэнтаздольнай, а украінскія вытворцы пастаўляюць лекі да нас па дэмпінгавых коштах.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Дзеці і аборты

Паводле сацыялагічнага апытання, прыкладна 55% жанчынаў прызналі, што сыходзяць з працы штодня ў вялікай стоме (у залежнасці ад ўзросту гэтая лічба толькі павялічвалася), 15% свой стан пасля працоўнага дня ацанілі як нармальны і толькі 2% пасля працы маюць добры настрой.

Тым не менш, жанчыны жывуць на 11,4 года даўжэй за мужчынаў. На думку Аляксандра Цыбіна, начальніка Галоўнага ўпраўлення лячэбна-прафілактычнай дапамогі міністэрства аховы здароўя, такой працаздольнасці жыцця жанчыны абавязаныя толькі свайму неагрэсіўнаму стаўленню да навакольнага асяроддзя, чаго не скажаш аб мужчынах. Разам з тым, жанчыны мяркуюць, што мужчынам на здароўе шанцiць больш за іх.

Што да рэпрадукцыйнага здароўя жанчын, то яно застаецца дрэнным. На працягу ўсёй цяжарнасці жанчына знаходзіцца ў стане трывогі, што, натуральна, адмоўна адбіваецца на стане ейнага здароўя. Пры нараджальнасці 94 тысячы немаўлятак штогод, 116 тысяч дзяцей не нараджаюцца ў выніку перарывання цяжарнасці жанчынамі. У 20-30% выпадкаў муж нават не ведае аб тым, што жонка была цяжарная і зрабіла аборт. Летась, напрыклад, аборты зрабілі 44 дзяўчыны ва ўзросце да 15 гадоў, ва ўзросце з 15 да 19 гадоў — ужо 10 тысяч, а сярод жанчынаў 40-45 гадоў колькасць абортаў яшчэ большая.

**Алена ЛАБАНАВА**

КАНТРОЛЬ

## Транспартны збор на транспарт не ідзе

Як лічаць у Камітэце дзяржаўнага кантролю (КДК) па Брэсцкай вобласці, кіраўніцтва Брэста парушае закон, выкарыстоўваючы транспартны збор на нямэтавыя патрэбы.

Знос аўтобусаў і тралейбусаў, якія абслугоўваюць Брэст, складае адпаведна 73 і 58%. Штодзённа на лініях працуюць 84 аўтобусы і 60 тралейбусаў. За восем месяцаў гэтага года тралейбусным паркам перавезена 31,6 мільёна чалавек, аўтобусным — 38,3 мільёна. Затраты на 1 кіламетр прабегу склалі ў тралейбусным парку 517 рублёў пры даходах 300,2 рубля, у аўтобусным — 545 рублёў пры даходах 310 рублёў. Да 60% фактычных затратаў транспартных гаспадарак павінна пакрывацца з бюджэту, аднак гэтага не адбываецца, і затраты пакрываюцца не ў патрэбным аб'ёме.

У першым паўгоддзі гэтага года даходы ад транспартнага збору, якім абкладаюцца ўсе прадпрыемствы абласнога цэнтра, склалі 696,5 мільёна рублёў. На патрэбы ж транспартнікаў было накіравана ўсяго 247,6 мільёна рублёў, на якія набыты адзін тралейбус, капітальна адрамантавана два тралейбусы і тры аўтобусы. Астатняя частка збору накіраваная ў стабілізацыйны фонд. У КДК лічаць гэта супрацьзаконным.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

КРЫМІНАЛ

## 40 долараў за 100

13.700 падробных амерыканскіх долараў (вартасцю па 100 долараў кожная купюра) канфіскаваныя 10 кастрычніка супрацоўнікамі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі.

Як расказаў карэспандэнту БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення падпалкоўнік Міхаіл Грода, затрыманыя двое мужчын — жыхары Брэста і Данецкай вобласці, якія прывезлі грошы для таго, каб збыць іх грамадзянам Беларусі па цане 40 долараў за кожную фальшывую стодоларавую купюру. Пры затрыманні не было аказана супраціўлення, бо ў аперацыі бралі ўдзел супрацоўнікі АМАПа. Усё праходзіла ў брэсцкім мікраёне Кавалёва. Па словах М.Гроды, «фальшыўкі з'яўляюцца суперпадробкамі, бо нават наяўнае ў абменных пунктах абсталяванне не здольнае вызначыць тое, што яны падробкі, не кажучы ўжо аб вызначэнні сапраўднасці «з вока на вока». Мяркуецца, што грошы прывезлі з Польшчы.

Па словах М.Гроды, штодзённа ў Брэсцкай вобласці выяўляюцца да пяці выпадкаў «з'яўлення» фальшывых купюраў розных валютаў і вартасцяў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**



ІНІЦЫЯТЫВА

## Свабодны прафсаюз хоча сустрэчы з Лукашэнкам

Старшыня Свабоднага прафсаюза Беларускага (СПБ) Генадзь Быкаў прапаноўвае прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку сустрэцца і абмеркаваць праблемы ўзаемаадносінаў уладаў і незалежных прафсаюзаў.

Як зазначаецца ў звароце, які Быкаў накіраваў кіраўніку дзяржавы, з 1995 года ў Беларусі «склалася сітуацыя жорсткага супрацьстаяння» ўлады і СПБ. «Прычына супрацьстаяння, як нам бачыцца, у тым, што ўвесь гэты час уладамі сістэматычна груба парушаліся правы Свабоднага прафсаюза і яго членаў, — гаворыцца ў звароце. — Пра тое, што гэта не пустыя сцвярджэнні, сведчыць той факт, што 14 чэрвеня 2001 года на 89-й сесіі Міжнароднай арганізацыі працы Рэспубліка Беларусь унесеная ў спецпараграф, што з'яўляецца выключнай мерай, прымяняемай гэтай арганізацыяй да членаў, якія груба парушаюць свае абавязацельствы».

Паводле звестак Свабоднага прафсаюза, зараз на разглядзе ў прэзідэнта знаходзіцца праект дэкрэта, які мае непасрэднае дачыненне да прафсаюзаў. Як зазначаецца ў звароце, СПБ хацеў бы азнаёміцца з праектам для таго, каб вызначыць, наколькі яго прыняцце здыме праблемы прафсаюза і, пры неабходнасці, унесці ў яго свае прапановы.

Для вырашэння і абмеркавання ўсіх наяўных пытанняў Генадзь Быкаў прапаноўвае Аляксандру Лукашэнку сустрэцца ў любы зручны для яго час.

**Ірына ЛЕЎШЫНА**

# Ружовыя акуляры

*Заканчэнне, пачатак на стар.3*

Чакаецца, што рэальныя грашовыя даходы нас з вамі вырастуць у наступным годзе на 5-6%. А жыллёвая праблема будзе паменшаная – у эксплуатацыю будзе ўведзена 2,5 мільёны квадратных метраў жылля, пабудаванага за кошт усіх крыніцаў фінансавання.

Нацыянальны банк Беларусі, са свайго боку, таксама прасякнуты аптымізмам наконт 2002 года. Ягоны кіраўнік, банкір з будаўнічай адукацыяй Пётр Пракаповіч заявіў журналістам, што ў наступным годзе тэмпы дэвальвацыі беларускага рубля ў дачыненні да долара знізяцца ўдвая – да 1,2-1,4% у месяц. Пры гэтым, інфляцыя ў краіне мусіць скласці 22-27% у год або 1,5-2% штомесяц. Што да валютных рэзерваў Нацбанка, то яны мусяць узрасці не менш як на 200 мільёнаў долараў – толькі тады беларускі рубель будзе стабільным. Але пакуль што Нацбанку даводзіцца больш траціць валюты, чым накопліваць яе. У прыватнасці, па словах таго ж П.Пракаповіча, толькі за верасень валютныя рэзервы Нацбанка скараціліся на 30 мільёнаў долараў.

Мы папрасілі пракаментаваць урадавы прагноз на 2002 год прэзідэнта Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандра Патупу. Вось што ён заявіў:

– Тое, што адбываецца апошнія гады пачынаючы з 1996-га, гэта ўсё аднаўленне адміністратыўна-каманднай эканомікі. Яна можа забяспечыць нейкі рост – пэўны рост назіраўся штогод і ў СССР. Няцяжка намаляваць прыгожыя лічбы – напрыклад, улічваць увесь бартэр. Аднак любы рост немагчымы без сур'ёзных інвестыцыяў – як знешніх, так і ўнутраных, а іх няма.

Унутранае рэінвеставанне амаль не адбываецца. Замест укладвання грошай у вытворчасць людзі імкнуцца схаваць свой прыбытак, бо не ўпэўненыя, што ў іх не адбяруць гэтыя грошы.

А замежнікі бачаць, што ўласныя бізнесмены не імкнуцца інвеставаць, і гэта іх палохае. Таму яны не прыходзяць – і Беларусь цяпер знаходзіцца на адным з апошніх месцаў па аб'ёму замежных інвестыцыяў.

Цяпер ідзе хваля «ўздыму лібералізацыі». Але спачатку трэба паглядзець, што пад «лібералізацыяй» мае на ўвазе начальства. Калі гэта ідзе яшчэ адна кампанія, якая ставіць на мэту прыцягнуць увагу Захаду – тое, што рабілася і раней – гэта кепска, і гэта не забяспечыць росту.

На сённяшні дзень асноўныя фонды імкліва зніжаюцца, і гэта пры адсутнасці інвестыцыяў – адмоўны вектар развіцця эканомікі. Мы ўжо не можам разглядаць Расію як паліўна-сыравінны прыдатак Беларусі.

Наадварот – Расія шляхам рэгулявання цэнаў на энерганосьбіты ўсё больш жорстка рэгулюе цэны на беларускія тавары. Пры такой палітыцы мы хутка страцім не толькі эканамічны, але і ўвесь суверэнітэт.



*– Як вы лічыце, ці доўга здолее яшчэ працягнуць Беларусь у цяперашніх эканамічных варунках без сур'ёзнага рэфармавання?*

– Я мяркую, што калі застаецца на сённяшняй лініі – то не болей за два гады. І Расія, і іншыя суседнія краіны проста «з'ядуць» Беларусь – разам з усім яе ростам.

*– Наколькі радыкальныя мусяць быць змены ў эканамічнай палітыцы, каб дамагчыся пазітыўных зрухаў?*

– Спачатку трэба вярнуцца ў рынак, адкуль нас выкінулі. Але для гэтага неабходна змяняць палітыка-прававую прастору. Патрэбныя надзейныя гарантыі для вядзення бізнесу. Не мусіць існаваць указава-дэкрэтная сістэма – яна робіць сітуацыю непрадказальнай.

Захады патрэбныя сапраўды радыкальныя. Тое, што робіцца цяпер – скарачэнне ліцэнзіяванняў да 2-3 дзесяткаў відаў дзейнасці, спрашчэнне рэгістрацыі прадпрыемстваў – гэта толькі заплаты на рубішчы. Патрэбная сістэмная лібералізацыя.

Наш Беларускі саюз прадпрымальнікаў ужо гадоў восем як прапаноўвае кіраўніцтву краіны праграму такіх зменаў.

*– Ці прапаноўвалі вы яе новаму ўраду?*

– Гэта бессэнсоўна, бо ўрад у нас не займаецца стратэгіяй. Перамаўляць трэба з тымі, хто ў нас прымае рашэнні. Рэформа патрабуе палітычных рашэнняў.

Смешны прыклад: трэба было б забараніць балбатню наконт першаснасці вытворцаў. Трэба вывучыць нарэшце, што насамрэч усё ўвязана ў сістэму – вытворчасць, продаж і фінансаванне. Для Беларусі асноўная праблема – не вырабіць тавар, гэта ў нас ужо умеюць, але прадаць яго. Яшчэ больш важна прафінансаваць і вытворчасць, і продаж. Як тут можна ўвесь час казаць пра прымат вытворца? І, канешне, для такога адступлення ад марксісцкіх ідэяў патрэбнае палітычнае рашэнне. Яго не можа прыняць у нас ніякі ўрад.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Цукровая вайна паміж Беларусьсю і Ўкраінай

*Заканчэнне, пачатак на стар.3*

Гэты цукар зьявіўся на ўкраінскім рынку сёлета. З той прычыны, што цукар-сырэц значна таньнейшы за буракові, яго прадавалі па дэмпінгавых коштах. Паводле нашых зьвестак, тона цукру ў Беларусі каштуе недзе каля 300 даляраў. У той жа час ва Ўкраіне тона яго нашмат даражэйшая — больш за 400 даляраў. Атрымлівалася, што калі вы завозілі свой цукар, то прадавалі яго ніжэй за наш кошт».

Паводле статыстычных зьвестак, штогадовыя патрэбы Беларусі складаюць каля 350 тысяч тонаў цукру. Між тым, уласны выраб і імпарт пераўзыходзяць гэтыя патрэбы. Цукровы бізнэс стаў апошнія гады ў Беларусі прыбытковым заняткам. Рэч у тым, што пастаўшчыкі цукру-сырцу тут працуюць на льготных умовах, паколькі іх падтрымлівае ўлада.

Галоўны ж пастаўшчык — фірма кіраўніцтва справаў прэзыдэнта «Белая Русь». Сёлета, паводле ўказаньняў Аляксандра Лукашэнкі, ёй даручана імпартаваць 200 тысяч тонаў цукру-сырцу. Ільготны падатковы і мытны рэжым дапамагаюць атрымліваць танную прадукцыю. Як вынік, яны насычаюць ёю ня толькі беларускі рынак, але й рынкі Расеі ды Ўкраіны.

Відавочна, такая палітыка абурыла Ўкраіну з прычыны пагрозы ейным эканамічным інтарэсам. Так, у прыватнасьці, лічыць прадстаўнік «Укрцукру» Іван Дзембак.

*— Скажыце, гэта вельмі адбіваецца на працы цукровай прамысловасьці Ўкраіны?*

— Так. Хаця б таму, што ў нас устаноўленыя мінімальныя цэны на цукар пастановай кабінэту міністраў. Мы свой рынак рэгулюем для рэалізацыі свайго буракавага цукру.

*— Колькі цукровых прадпрыемстваў ва Ўкраіне?*

— Сёлета плянавалі запусьціць 156 прадпрыемстваў.

*— А колькі яны выrабляюць цукру?*

— Дзесьці 1.500–1.600 тысяч тонаў.

*— А колькі наагул спажывае цукру рынак?*

— 1.800 тысяч тонаў.

*— І скажыце, калі ласка, ці доўга будзе дзейнічаць такая пастанова? Як вы мяркуеце?*

— Я лічу, што яна павінна дзейнічаць заўжды.

Афіцыйны Менск пакуль аніяк не адрэагаваў на рашэньне Ўкраіны. Як вядома, 16 кастрычніка Кіеў мае намер наведаць зь першым рабочым візытам новы беларускі прэм'ер Генадзь Навіцкі. І ня выключана, што беларускі бок спрабуе пазьбегчы скандалу.

**Міхал СТЭЛЬМАК**
**Радыё «Свабода»**

# Язык до Киева доведет

*Заканчэнне, пачатак на стар.3*

А что касается визита Новицкого в Киев, то по обнародованной программе планируется подписание ряда межгосударственных соглашений. Среди них об оперативном оповещении о ядерной аварии и сотрудничестве в области радиационной безопасности. Надо полагать, что и после закрытия Чернобыльской АЭС тема эта для Беларуси остается актуальной. Но не совсем понятно тогда, почему только сейчас решено было подписать такое соглашение. Зато очевидно другое. В беседе с президентом Леонидом Кучмой, который обещает принять белорусского премьера, будет затронута, пожалуй, главная для Украины проблема. Уже пять лет в Минске не могут ратифицировать подписанный двумя президентами Договор о государственной границе. Одно время исполнительная власть Беларуси даже ссылалась на то, что, мол, трудности с ратификацией порождает законодательная власть. В Киеве такие ссылки воспринимались как циничные и лицемерные. Ведь о самостоятельности и правах белорусского парламента известно во всем мире. На самом деле Минск вроде бы готов ратифицировать данный документ. Но в обмен на выплату Украиной долга, который, по подсчетам белорусской стороны, составляет около 200 миллионов долларов. Киев такой подход отвергает. Впрочем, и сам долг не признает.

После президентских выборов руководство Беларуси всячески стремится к тому, чтобы эти выборы были признаны международным сообществом. Кстати, как-то не очень отмечалось, кто из украинских руководителей официально поздравил вновь избранного президента Беларуси. О поздравительном звонке Путина из Кремля говорили немало, а вот о президентском звонке из Киева что-то не было слышно.

В Минске помнят о другого рода звонках из Киева. Например, когда Кучма пытался объяснить Лукашенко, что его не ждут на Ялтинской встрече глав государств и правительств ряда европейских стран. Было такое мероприятие в конце прошлого века. Можно вспомнить и то, что уже в этом году планировалась белорусско-украинская встреча на высшем уровне. То ли в Чернигове, то ли в Гомеле. Но удалось заманить Кучму лишь на «Славянский базар в Витебске». Судя по последующему в августе празднованию 10-летия независимости Украины, с участием славянских президентов России, Польши, Македонии, без самого громкого радетеля славян, нетрудно предположить, что «базар» в Витебске не удался.

Некоторые эксперты полагают, что белорусский премьер попытается прозондировать в Киеве тему, которая может улучшить перспективу для Минска в большей степени вписаться в треугольник Москва-Киев-Варшава. Речь идет о новой ветке газопровода из России в Европу, которую планируют протянуть через территорию Беларуси. Украине это невыгодно.

Насколько удачно для себя смогут разыграть эту геополитическую карту минские стратеги, сказать трудно. Все же как-никак, а Путин объявил следующий год в России годом Украины. А в самой Украине в следующем году должны пройти парламентские выборы, исход которых должен быть важным как для Москвы, так и для Минска, где уже испытывают сдержанный оптимизм от исхода парламентских выборов в Польше.

Не секрет, что Варшава намерена активизировать свою восточную политику, отвечающую интересам малого и среднего бизнеса. С этим связан и нынешний визит Александра Квасьневского в Москву. Ежегодные потери Польши из-за ухода с российского рынка оцениваются в 2 млрд. долларов. Варшава намерена исправить ошибку. Понятно, что без белорусского коридора полякам на российский рынок будет вернуться трудно. Но куда труднее будет новому премьеру Беларуси провести назревшие экономические реформы, о которых он осторожно говорит под неусыпным президентским оком.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Ці стане Фронтаў болей?

13 кастрычніка ў Мінску прайшоў традыцыйны Сойм БНФ «Адраджэньне», на якім абмяркоўвалася пытанне пра з'езд партыі ў святле прэзідэнцкіх выбараў. Сойм не набраў кворуму, таму нейкіх важных рашэнняў прынята быць не магло. Але на Сойме выразна праявілася тэндэнцыя да размежавання партыі, што стане галоўнай праблемай на з'ездзе БНФ 15-16 снежня. Справаздача кіраўніцтва за два гады праўлення партыяй, прыняцце новай праграмы БНФ, перавыбары кіраўніцтва – гэта асноўныя пытанні з'езда. Хаця, відавочна, найперш партыі трэба дамагчыся захавання адзінства.

Пра раскол у БНФ пакуль сур'ёзных гаворак не ідзе. Тым не менш, размежаванні ў партыі ідуць адразу па трох накірунках. Паводле намесніка старшыні БНФ Паўла Севярынца, рэгіёны незадаволеныя схемай «Домаш-Ганчарык» і пройгрышам на прэзідэнцкіх выбарах, вялікая незадаволенасць палітыкай цэнтральнага кіраўніцтва БНФ, якое падтрымала вылучэнне адзіным кандыдатам Уладзіміра Ганчарыка, а не Сямёна Домаша, і рэалізавала згаданую схему. У маладзёжнага крыла БНФ – свае прэтэнзіі да кіраўніцтва.

П.Севярынец лічыць, што ў існуючай палітычнай сітуацыі многае будзе залежаць ад пазіцыі старшыні Вінцука Вячоркі і ягоных паплечнікаў: Віктара Івашкевіча, Алеся Бяляцкага, Юрыя Хадыкі і мінскага кіраўніцтва. На думку П.Севярынца, трэба кардынальна мяняць праграму, ідэалогію, неабходна перабудоўваць арганізацыйную сістэму партыі. Трэба мяняць і структуру кіраўніцтва БНФ: ад шасці намеснікаў, якія адказваюць за кожную з абласцей, трэба пераходзіць да двух намеснікаў, адказных за выканаўчыя структуры і ідэалогію.

Як бы там ні было, у цяперашняга старшыні БНФ Вінцука Вячоркі альтэрнатывы няма. На з'ездзе яго могуць падтрымаць, аднак патрабаванняў аб адстаўцы не пазбегнуць. Такім чынам, найважнейшай праблемай перад з'ездам і на самым форуме з'яўляецца захаванне адзінства партыі. Яшчэ аднаго расколу (цяпер, як вядома, існуюць два Фронты: БНФ «Адраджэньне» Вінцука Вячоркі і Кансерватыўна-хрысціянская партыя-БНФ Зянона Пазьняка) партыя ўжо не пераживе.

**Рыгор БУЯН**

# «Пустое крэсла» для Беларусі

*9 кастрычніка Пастаянны камітэт Парламенцкай асамблеі АБСЕ пакінуў пустым месца Беларусі ў ПА АБСЕ.*

Як вядома, пасля рэферэндуму 1996 года ПА АБСЕ прыпыніла статус «спецыяльна запрошанага» для Беларусі. Да пачатку гэтага года ПА АБСЕ прызнавала законным парламентам Вярхоўны Савет 13-га склікання, аднак 9 студзеня тэрмін паўнамоцтваў ВС скончыўся, таму ПА АБСЕ пакінула крэсла Беларусі пустым.

Вынікі разгляду «беларускага пытання» на паседжанні Пастаяннага камітэта ПА АБСЕ ў Лісабоне каментуе віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Анатоль Лябедзька:

– 9 кастрычніка сабраўся Пастаянны камітэт ПА АБСЕ. Перад пачаткам паседжання прэзідэнт ПА АБСЕ Адрыян Севярын даў даведку, што дэ-факта для Беларусі існуе «пустое крэсла», а само пытанне будзе разглядацца на лютаўскай сесіі ў Вене. Спадзяванні палаты прадстаўнікоў легітымізаваць сябе ў гэтай структуры не спраўдзіліся. Хаця расійская дэлегацыя пры падтрымцы Казахстана і Таджыкістана спрабавала навязаць дыскусію аб неабходнасці прадастаўлення палаце афіцыйнага статусу «спецыяльна запрошанага» ў ПА АБСЕ.

Акрамя гэтага, «беларускае пытанне» закраналася ў справаздачы кіраўніка групы наглядальнікаў на прэзідэнцкіх выбарах. Кіма Кюленен сказаў, што місія насіла абмежаваны характар, бо беларускія ўлады не далі магчымасці арганізаваць своечасовы прыезд наглядальнікаў. Ён паўтарыў, што выбары не адпавядаюць стандартам АБСЕ, што гэтыя выбары – несправядлівыя, недэмакратычныя. І трэцяя ягоная ідэя – трэба пашыраць супрацоўніцтва з Беларуссю, таму што ізаляцыя не на карысць ні міжнароднай супольнасці, ні народу Беларусі.

Перад паседжаннем мы мелі сустрэчу з Адрыянам Севярынам, у часе якой мы падрабязна паінфармавалі прэзідэнта ПА АБСЕ пра тое, як праходзілі прэзідэнцкія выбары, пра іх наступствы. Тады А.Севярын заявіў, што «выбары не адпавядалі міжнародным стандартам, і ПА чакае з боку беларускіх уладаў рэальных крокаў, якія б пацвярджалі гатоўнасць да пераменаў». А.Севярын заявіў таксама, што ён вымушаны будзе скласці з сябе паўнамоцтвы кіраўніка рабочай групы па Беларусі. Такім чынам ён дэманструе сваю незадаволенасць тым, як вырашалася беларуская праблема.

У нас была і яшчэ адна сустрэча. Мы сустрэліся з міністрам замежных справаў Партугаліі Джэмі Гама (з 1 студзеня 2002 года Партугалія будзе старшынёй у АБСЕ) і перадалі яму спіс людзей, якія падвяргаліся ці падвяргаюцца рэпрэсіям з боку ўладаў. На гэтай сустрэчы будучы дзеючы старшыня заявіў, што ў часе старшынства ў АБСЕ для Партугаліі «беларускае пытанне» будзе адным з прыярытэтаў. Ён сказаў, што для яго атрыманы спіс з'яўляецца працай, і ён будзе рабіць усё, каб правы рэпрэсаваных былі адстоеныя.

***– Што ўяўляе сабой перададзены спіс?***

– Нават сёння я кажу, што гэтыя спісы – папярэднія. Калі мы перадавалі аналагічны спіс у ПА Савета Еўропы, у ім было некалькі дзесяткаў чалавек. Ужо ў Лісабон мы павезлі спісы, у якіх некалькі соцень чалавек. У першую чаргу, гаворка ідзе пра лёс людзей, у адносінах да якіх узбуджаныя крымінальныя справы – ёсць чатыры эпізоды крымінальнага пераследу,



тры з якіх зафіксаваныя па Магілёўскім рэгіёне, адзін – па Гомельскім. Астатнія – тыя, хто выкінуты з працы, адлічаны з вышэйшых навучальных установаў або ў адносінах да каго існуе жорсткі псіхалагічны ціск, рэальныя пагрозы, што да іх будуць прымененыя тыя ці іншыя санкцыі. Але яшчэ раз падкрэсліваю, што гэты спіс не канчатковы.

***– Якія найбольш верагодныя перспектывы Беларусі ў ПА АБСЕ?***

– У Парламенцкай асамблеі АБСЕ, я думаю, найбольш верагодна, што будзе замацаваны прынцып «пустога крэсла» для Беларусі з наданнем статусу наглядальнікаў абодвум бакам – і Нацыянальнаму сходу, і Вярхоўнаму Савету.

Зрэшты, пазіцыя ПА АБСЕ будзе залежаць ад многіх фактараў. Мы выступілі з ініцыятывай аб сустрэчы прадстаўнікоў шырокай грамадзянскай кааліцыі ды новага кіраўніка ўрада. Мы звярнуліся да Лукашэнкі з ініцыятывай правядзення перамоваў паміж шырокай грамадзянскай кааліцыяй і беларускімі ўладамі пры пасярэдніцтве КНГ АБСЕ і «парламенцкай тройкі».

Прадметам перамоваў мусяць стаць вядомыя «чатыры ўмовы» – спыненне палітычнага пераследу апазіцыі, прадастаўленне апазіцыі эфірнага часу ў электронных СМІ, змяненне Выбарчага кодэкса і пашырэнне функцыяў парламента. Гэта той падмурак, які можа стаць асновай перамоўнага працэсу.

Лукашэнка заявіў, што ён выступае за дэмакратызацыю Беларусі. Мы прапануем гэтыя словы пераплавіць у канкрэтныя рэальныя справы. І калі Лукашэнка пойдзе на перамовы, яны будуць мець поспех і вынікам гэтага стане, што беларуская апазіцыя атрымае доступ да дзяржаўнага тэлебачання і радыё, што ў нас будуць прыпыненыя ўсе крымінальныя справы з палітычным адценнем, а ўсе звольненыя атрымаюць працу, калі будуць паўнамоцтвы ў парламента – то гэта і стане перадумовай для разгляду пытанняў пра атрыманне статусу ў Савеце Еўропы.

**Рычард БУЙНІЦКІ**

# Турправаднікі патрыятызму

*У Беларусі налічваецца ўсяго толькі крыху больш за 1 тысячу экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў, але значасцю сваёй дзейнасці яны пераўзыходзяць шматлікіх дзяржаўных і недзяржаўных ідэолагаў.*

Як гаворыць старшыня Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў Мікалай Чырскі, праводзячы якую-небудзь экскурсію ці толькі распрацоўваючы яе, яны становяцца носьбітамі і праваднікамі нацыянальнай ідэі – любові да сваёй радзімы, веданне і шанаванне яе гісторыі, культуры, традыцыяў свайго народа.

Экскурсія як галоўны складнік турызму ёсць навучаннем культуры і гісторыі краіны ў форме паказу і расказу. Магчыма, таму ў экскурсаводы ідуць большай часткай настаўнікі.

Доўгімі савецкімі часамі ў тэматыцы і тэкстах экскурсіяў культываваўся ваенна-патрыятычны напрамак, і ў выніку ў вачах экскурсантаў Беларусь паўставала зусёднай пакутніцай і партызанкай. Больш за 1.200 тэмаў было распрацавана па Беларусі ў тыя часы, і ўсе з савецкім ідэалагічным падтэкстам.

З прыходам незалежнасці грамадства пазбавілася ўсялякай ідэалагічнай накіраванасці. Надышоў час гістарычных тэмаў падчас экскурсіяў, але дзяржава не надала гэтаму ніякай увагі. Пасля падзення «жалезнай заслоны» Беларусь беларусаў цікавіла менш за ўсё: камусьці не хапала на хлеб, а кагосьці вабілі новыя гарызонты. Праўда, апошнім часам намаганнямі турыстычных агенцтваў намеціліся першыя зрухі – па беларускіх мясцінах пачалі ездзіць дзеці. Вялікіх прыбыткаў гэта фірмам не дае (напрыклад, экскурсія па Міры і Нясвіжы каштуе 8 тысяч). Каля 80% экскурсантаў – гэта школьнікі, і толькі праз такія арганізаваныя школьныя туры шляхі да выбітных мясцінаў не параслі быллём.

Пасля таго, як экскурсіі па месцах ваеннай славы адмерлі, разам з імі згубілі актуальнасць і старыя экскурсійныя тэксты, а новыя не распрацаваныя і дагэтуль. Таму экскурсіі з аднолькавымі праграмамі ў розных экскурсаводаў робяцца ў кожнага на свой капыл. Нехта карыстаецца тэкстамі, якія былі напісаныя за савецкім часам, выкрэсліваючы з іх толькі ідэалагічныя пасажы, а нехта апрацоўвае іх суадносна ўласным поглядам.

На думку Мікалая Чырскага, усе тэксты экскурсіяў мусяць быць вытрыманыя ў адной ідэалагічнай накіраванасці. Але гэта патрабуе ад дзяржавы вызначыцца з гэтай самай нацыянальнай ідэалогіяй у турызме. Неабходна на ўзроўні дзяржавы стварыць адмысловае экскурсійнае ўпраўленне, якое бы займалася распрацоўкай метадалогіі экскурсійнай справы.

Нават у часы Саюза існавала вертыкаль, якая ўсім гэтым кіравала, а ўвесь інтэлектуальны патэнцыял гідаў-перакладчыкаў і экскурсаводаў быў сканцэнтраваны ў метадычных аддзелах у сістэмах Беларускага савета па турызме і экскурсіях і ў «Белінтурысце». Арганізацыяй экскурсійнага абслугоўвання замежнікаў, следуючых праз нашую тэрыторыю транзітам, займаўся «Белінтурыст», а маладзёжным накірункам – бюро «Спадарожнік».



Пасля іх ліквідацыі ў 1991 годзе гэтыя людзі апынуліся на вуліцы. Але з цягам часу вярнуліся ў экскурсаводства ў прыватных турфірмах, а некаторыя заснавалі свае ўласныя. Толькі дзякуючы гэтым спецыялістам экскурсійныя туры па цікавых гістарычных мясцінах Беларусі і праводзяцца. Працягласць часу экскурсіяў, тое, якія аб'екты трэба абавязкова паказаць і на колькі на кожным з іх варта спыніць увагу турыстаў, ведаюць толькі экскурсаводы «старой закалкі», бо зараз гэтыя крытэрыі не вызначаныя ў аніводнай метадычнай распрацоўцы.

На цяперашні час маецца больш за 100 маршрутаў, што, натуральна, не ідзе ў аніякае параўнанне з іх тысячнай колькасцю за савецкім часам. Адна экскурсія распрацоўваецца творчай групай цягам года. Тэматычнымі экскурсіямі займацца лягчэй, а вось агульныя шматпланавыя экскурсіі, напрыклад, па гарадах, патрабуюць больш намаганняў і часу. Спачатку адбіраюцца найбольш значныя аб'екты, вартыя для экскурсійнага паказу, на кожны з якіх трэба скласці апісанне, а яно для розных катэгорыяў турыстаў будзе адмысловым. Пасля гэтыя апісанні апрацоўваюцца ў аповед і зводзяцца ў суцэльны тэкст, але экскурсанты чуюць толькі невялікую ягоную частку. Ведаючы аб кожным аб'екце ўсё да дробязяў, экскурсавод, каб не стаміць слухачоў, даводзіць ім толькі самае асноўнае. І ўвогуле за паказам і тым натуральным і лёгкім расповедам гіда, як тое здаецца звонку, стаіць вывераннасць кожнага слова і метадычных прыёмаў – з якога боку да чаго падысці, чым распачаць і скончыць паказ, якім бокам стаяць да аб'екта і гэтак далей.



Вывучыць усе гэтыя мудрагелістасці не цяжка. За 9 месяцаў з былога настаўніка можна зрабіць неблагога экскурсавода, галоўнае, каб чалавек валодаў словам і меў вышэйшую адукацыю. Але вучаць экскурсійнай справе, па словах Мікалая Чырскага, толькі ў адной установе – у Вышэйшай школе экскурсаводаў пры БДУ, дзе ўвесь курс навучання каштуе больш за 100 долараў. А паколькі ў экскурсаводы збольшага ідуць настаўнікі, не кожнаму з іх даходы дазваляюць такую пераадукацыю. Таму новае пакаленне экскурсаводаў «нараджаецца» з цяжкасцю. У правінцыі сітуацыя яшчэ складаней: у Полацку і Пінску, напрыклад, новых спецыялістаў рыхтуюць высокакваліфікаваныя экскурсаводы ў свой уласны час і задарма.

У такім настроі сустракае беларуская экскурсійная справа сваё 50-годдзе. Застаецца толькі спадзявацца, што да стагадовага юбілею дзяржаўныя мужы зразумеюць, што без грашовых укладанняў ніякая галіна развівацца не можа. Пакуль дзяржава ніякіх выдаткаў несці не хоча ды для інвестараў спрыяльных умоваў не стварае.

У выніку беларусы вязуць турыстычныя грошы за мяжу, а замежнікі іх у нас і патраціць не паспяваюць, бо трапляюць у нашую краіну пераважна транзітам на 1,5-2 сутак. Полацк, Віскулі, Музей беларускай архітэктуры і побыту – самыя папулярныя для іх мясціны. «Замежных турыстаў у нашай краіне цікавяць экскурсійныя туры і знаёмства з этнасам. Ім патрэбны беларускія танцы, народныя святы, абрады і вырабы... Трэба ствараць этнічныя цэнтры, дзе яны ўсё гэта маглі бы пабачыць», – лічыць старшыня Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў Мікалай Чырскі.

Але нейкага інвестыцыйнага дажджу ці наплыву замежных турыстаў варта чакаць толькі калі Беларусь стане цікавай для саміх беларусаў. Толькі калі дзяржава прафінансуе стварэнне турыстычнай інфраструктуры, якой не збаяцца беларусы, тады да нас паедуць і замежнікі.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Лукашэнка падзякаваў БТ

12 кастрычніка прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустракаўся з супрацоўнікамі Нацыянальнай Дзяржтэлерадыёкампаніі, у часе якой падзякаваў ім за тое, якім чынам Беларускае тэлебачанне асвятляла нядаўнюю прэзідэнцкую кампанію. А па сутнасці за суцэльную інфармацыйную падтрымку з боку БТ кандыдата на прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

Як ён сказаў, «лік тут усім вядомы». Відаць, мелася на ўвазе, што БТ з піярнай функцыяй справілася на ўсе 100%, а дакладней, на тыя 75%, якія, па дадзеных Цэнтрвыбаркама, узяў на прэзідэнцкіх выбарах кіраўнік дзяржавы. Як заявіў А.Лукашэнка, «Беларускае тэлебачанне, якое некаторыя асобы называюць «вясковым», у гэты перыяд ушчэнт размалаціла іншыя каналы». А адразу пасля гэтага з эфіру зніклі такія адыёзныя перадачы, як «Рэзананс» Аляксандра Зімоўскага і «Таемныя спружыны палітыкі» Юрыя Азаронка. З-за непатрэбнасці. Але не выключана, што пад чарговую выбарчую кампанію ці які-небудзь рэферэндум, скажам, аб магчымасці аднаго чалавека быць прэзідэнтам не два, як зараз, а тры тэрміны, нешта спружынна-рэзанансавае можа з'явіцца нанова.

Многія меркавалі, што на гэтай сустрэчы прэзідэнта і бэтэшнікаў, а прайшла яна ў напаўзакрытым рэжыме, пад адной камерай, можа быць названае імя новага кіраўніка Белтэлерадыёкампаніі. Але гэтага не адбылося. Пасля смерці апошняга старшыні БТ Валерыя Скварцова яно ўжо болей месяца існуе без галавы. Болей за ўсё тут не хочуць, каб Скварцова замяніў цяперашні выконваючы абавязкі старшыні Ягор Рыбакоў, намеснік старшыні БТ і колішні старшыня Магілёўскага тэлебачання.

Тэлежурналістка Ганна Арцюшкевіч з Дырэкцыі перспектыўнага вяшчання, куды пры камандзе Чыкіна, Зімоўскага, Хрусталёва і Рыбакова ў так званы рэзерв БТ былі адпраўленыя многія вопытныя і прафесійныя супрацоўнікі Беларускага тэлебачання, кажа, што пры Валерыі Скварцове іх становішча пачало неяк вырашацца. Было прынятае рашэнне аб тым, што мастацкая рада БТ мусіць абірацца, а не прызначацца, а «рэзервістам» была прадастаўленая магчымасць рабіць праграму «13-ая студыя» сацыяльна-асветна-культурніцкага зместу, чаго на БТ у апошнія два гады значна паменела. Аднак па смерці В.Скварцова ўсё гэта было адразу ж скасаванае. На жаль, Скварцову так нічога і не ўдалося змяніць на БТ: па-першае, таму што ён ачольваў яго ўсяго паўтара месяца, а па-другое, дзейнічаў фактычна ў адзіночку.

Са словаў Г.Арцюшкевіч, на сустрэчы на Макаёнка, 9 Аляксандр Лукашэнка сказаў, што на «рэзервістаў» не забудуць: «усім людзям трэба даць шанц, нельга пакідаць на абочыне несправядліва пакрыўджанага чалавека». Цяпер гэта і сапраўднае рэфармаванне БТ, пра што так багата апошнім часам гаворыцца, залежыць ад таго, каго ён прызначыць тут кіраўніком. На БТ лічаць, што гэта мусяць быць насамрэч прафесіянальныя і кампетэнтныя асобы, калі ж застанецца цяперашняе кіраўніцтва, эфір працягне напаўняцца «перадачамі-паплаўкамі». Сярод мажлівых прэтэндэнтаў на пасаду старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі пакуль што называюцца тыя самыя імёны, што і пасля адставак Рыгора Кісяля і Віктара Чыкіна. Ад Паўла Якубовіча да Уладзіміра Замяталіна. Аднак, як павялося, Аляксандр Лукашэнка ў большасці выпадкаў здзіўляе кадравымі прызначэннямі.

Праўда, калі з'явіцца новы тэлестаршыня, на згаданай сустрэчы А.Лукашэнка не сказаў, але паабяцаў, што гэта «будзе чалавек прэзідэнта» і што цяпер сам ён будзе наведваць супрацоўнікаў БТ часцей.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Грошы на «шлягер» забяруць у журналістаў

У мінулую пятніцу на сесіі Магілёўскага абласнога Савета дэпутатаў было прынятае рашэнне аб пераразмеркаванні сродкаў абласнога бюджэту. Дэпутаты выдзелілі дадатковыя грошы на выплату зарплаты работнікам бюджэтнай сферы і вызначыліся з крыніцамі фінансавання міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер».

Згодна з рашэннем сесіі, 2 мільярды 892 мільёны рублёў са сродкаў стабілізацыйнага фонду абласнога бюджэту будуць выдаткаваныя на выплату заработнай платы работнікам бюджэтнай сферы. На правядзенне ў Магілёве напачатку лістапада міжнароднага фестывалю «Залаты шлягер» будуць накіраваныя 150 мільёнаў рублёў за кошт змяншэння асігнаванняў па раздзеле «Сродкі масавай інфармацыі». Таксама для правядзення фестывалю будзе пералічаная частка сродкаў, прадугледжаных раней для патрэбаў культуры.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## Нобелевская премия за книги

11 сентября Шведская академия присудила Нобелевскую премию по литературе. Ее получил английский писатель индийского происхождения Видьядхара Сурайпрасад Найпол. Он родился в 1932 году на Тринидаде, учился в Оксфорде и работал как свободный журналист на Би-би-си. Прославился беллетристическими циклами о жизни несчастных жителей своего родного острова, которые голодают, поют калипсо (специфические тринидадские частушки), ходят на крикет, играют на скачках, плодят детей, пьют ром и пляшут. В его прозе сочетаются английские, индийские и карибские традиции, а жизнерадостный юмор его творений сродни злободневным и слегка скабрезным текстам калипсо.

Членам королевской академии Найпол понравился чрезвычайной наблюдательностью и великолепными качествами рассказчика. Кроме того, многие произведения писателя (а он удивительно плодовит, выпуская в среднем по две книги в три года) оказались сейчас весьма злободневными – рост исламского фундаментализма в неарабских странах и отношения мусульман с членами других конфессий (Тринидад, как и многие островные государства – настоящий Вавилон после смешения языков), особенности стран третьего мира и т. п. Найпол – признанный в мире литератор, на его счету один Букер и премия Эллиота, а в 1990 году он был удостоен титула пэра королевой Елизаветой.

В этом году Шведская академия оказалась перед трудным выбором. Год назад китайские власти в общем-то справедливо обвинили шведских академиков в ангажированности и служении интересам западной идеологии, когда Нобелевская премия была вручена китайскому писателю-диссиденту Гао Синьхуану, главным образом за непреходящую борьбу против режима КНР.

На этот раз академии пришлось выбирать очень аккуратно, чтобы не нарушить ставшее особенно хрупким политкорректное равновесие. И она остановила выбор на живущем в Англии английском пэре с североиндийскими корнями.



Последняя книга Видьядхара Сурайдпрасада Найпола озаглавлена «Верующие до крайности». Книга основана на впечатлениях от поездок в различные мусульманские страны, в частности, в Иран времен правления аятоллы Хомейни, и создавший афганских талибов Пакистан. В ней не содержатся готовые выводы, но есть подробный анализ мира, в котором могут появиться, в частности, террористы-самоубийцы. Ислам, пишет автор, не является «вопросом сознания или личной веры – у него есть империалистические амбиции». В своей работе он рассказывает о странах, которые называет обращенными в ислам – Индонезии, Пакистане, Иране и Малайзии. «Ислам появился как арабская религия, – говорится в книге. – Все мусульмане-неарабы являются обращенными в эту веру». Новая вера предполагает, что новообращенный должен изменить свое видение мира, поскольку все священные места находятся на арабской земле, а священным языком является арабский».

**Инна ХЛОДВИГ**

## Кніга пра віцебскую культуру

Кніга «Художественная культура Витебска с древности до 1917 года» выйшла ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Аўтарамі гістарычнага нарыса з'яўляюцца рэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Пятра Машэрава, доктар гістарычных навук прафесар Аркадзь Русецкі і яго сын, мастацтвазнаўца Юрый Русецкі.

Даследаванне прысвечанае актуальнай, але малавывучанай у беларускім грамадазнаўстве тэме – гістарычнаму развіццю матэрыяльнай і духоўнай культуры аднаго з найстаражытных гарадоў Беларусі. На багатым фактычным матэрыяле прасочваюцца працэсы станаўлення ўсіх відаў мастацтва і народнай творчасці ў розныя перыяды гісторыі Віцебска – ранняга сярэднявечча, Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі.

«Менавіта нацыянальная мастацкая культура, якая акумулюе сацыяльны досвед пакаленняў і выступае як адкрытая сістэма развіцця, валодае разнастайнымі магчымасцямі «ачалавечвання чалавека», – гаворыцца ў прадмове да кнігі.

Выданне, аддрукаванае накладам у 3 тысячы асобнікаў, з'явіцца ў продажы 17 кастрычніка.

**Марат ГАРАВЫ**

## Архітэктурнае гран-пры за мінскі вакзал

Творчыя майстэрні інстытута «Мінскпраект» атрымалі гран-пры «за лепшую пабудову года» на рэспубліканскім фестывалі архітэктуры, які 13 кастрычніка завяршыўся ў Брэсце. Галоўнага прыза – пірамiды з бронзы, дыплома і паездкі ў Германію для творчага калектыву – «Мінскпраект» уганараваны за будынак чыгуначнага вакзала ў сталіцы Беларусі.

Арганізатарам фестывалю выступіў Беларускі саюз архітэктараў. У рамках двухдзённага мерапрыемства прайшлі: агляд-конкурс лепшых праектаў года (іх было прадстаўлена больш за сотню), выстава будаўнічага мастацтва, персанальныя выставы архітэктараў-выпускнікоў Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, а таксама выставы будаўнічых матэрыялаў і тэхналогіяў і агляд-конкурс студэнцкіх праектаў. Як зазначыў брэсцкі архітэктар, член журы конкурсу Валянцін Гапіенка, арганізатары «баяліся, што на агляд-конкурс будзе прадстаўлена мала работ, таму што падобны фестываль праходзіць летась», але тое, што яны ўбачылі, «перасягнула ўсе чаканні». Беларускія архітэктары, паводле яго словаў, прадставілі праекты, выкананыя па заказах шэрагу замежных дзяржаваў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

